Жыве Беларусь!

# БЕЛАРУС

Address:
166-34 Gothic Drive
Jamaica, NY 11432

BIELARUS/Belarusan newspaper in Free World ISSN 1054-9455
Published by the Belarusan American Association, Inc.
bielarus@bazahq.org

№ 591 Травень, 2012 г.
Год выданьня 63

## Шаноўныя чытачы!

Адчыняе травеньскі нумар інфармацыя пра духоўнае жыцьцё амэрыканскіх беларусаў, грамадзкае жыцьцё ў беларускіх асяродках у мінулым месяцы не вызначалася асаблівай актыўнасьцю.

У гэтым выпуску нашай газэты пераважае інфармацыя пра сытуацыю ў Беларусі і зьвязаныя з беларускімі праблемамі міжнародныя падзеі. На нашай Бацькаўшчыне значна пагоршылася ўнутрыпалітычная сытуацыя. Рэжым Лукашэнкі ня толькі не зважае на пратэсты міжнароднай супольнасьці, але наадварот, узмацняе рэпрэсіі супроць тых, хто выяўляе хоць нейкія прыкметы супраціву дыктатуры. Больш за тое, Лукашэнка аказвае дапамогу іншым дыктатарскім рэжымам у сьвеце і ня толькі на словах, але і пастаўкамі зброі. У гэтай сытуацыі паўстае неадкладная задача ўратаваньня краіны. Унутраная апазыцыя ня мае сілаў і рэсурсаў дзеля гэтага, цэнтр змаганьня, як выглядае, можа перамясьціцца ў замежжа, дзе ў эміграцыі знаходзяцца многія актыўныя беларускія палітыкі.

У галіне культуры беларусы маюць важкія набыткі, на старонках газэты вы можаце прачытаць пра посьпехі Беларускага вольнага тэатра ў Лёндане, пра тое, як прагучала Беларусь на кінафэстывалі ў Канах і шмат іншага.

У газэце ёсьць віншаваньні з асабістымі сьвятамі нашых вядомых людзей. Зьмяшчаем таксама зварот з просьбаю пра неадкладную дапамогу хвораму дзіцяці і спадзяемся, што вашыя чулыя сэрцы адгукнуцца на яго.

*Рэдакцыя*

## Парахвіяльныя сьвяты ў беларускіх цэрквах у Амэрыцы





## Сабор БАПЦ Сьв. Кірылы Тураўскага ў Нью-Ёрку

13 траўня ў нядзелю ў Катэдральным Саборы БАПЦ Сьв.Кірылы Тураўскага на Atlantic Ave, 401 у Брукліне адбылося ўрачыстае сьвяткаваньне, прысьвечанае Сьв. Кірылу Тураўскаму, чыё імя носіць Сабор. Гэта адно зь вялікіх сьвятаў, якое адзначаецца штогод. Асоба Сьв. Кірылы Тураўскага займае асаблівае месца ў духоўнай гісторыі Беларусі, і ўшанаваньне ягонага імя і дзейнасьці ёсьць абавязкам кожнага беларуса як на Радзіме, так і ў замежжы. Прысутнасьць у храме ў гэты дзень - своеасаблівае далучэньне да духоўных крыніцаў, якія жывяць наш народ.

Сьвяткаваньне пачалося а 10 гадзіне раніцы Архіерэйскай службай, якую адправілі епіскапы ўладыка Сьвятаслаў і ўладыка Серафім з удзелам а. Міхайлы. Пасьля службы ўсе прысутныя сабраліся ў грамадзкай залі, дзе іх чакаў сьвяточны абед, прыгатаваны сястрынствам і прыхажанкамі Сабору. На сьвята прыйшлі пераважна беларусы з Нью-Ёрку – сябры Бруклінскага аддзелу БАЗА.

Уладыка Серафім у сваім прывітальным слове павіншаваў таксама беларускіх жанчын з Днём Маці, што якраз і сьвяткаваўся ў Амэрыцы ў гэтую нядзелю.

Уладыка Сьвятаслаў, які прыехаў з Таронта, перадаў віншаваньні са Сьвятам ад беларусаў з Канады і запрасіў амэрыканскіх беларусаў наведаць Таронта на пачатку верасьня, дзе мае адбыцца чарговая Сустрэча беларусаў Паўночнай Амэрыкі.

*Ганна Сурмач*

# Сьвята ў Гайленд Парку







*20 траўня 2012 году адбылося Парафіяльнае сьвята ў Царкве Жыровіцкай Божай Маці БАПЦ у Гайленд Парку (Нью Джэрзі) з удзелам уладыкі Сьвятаслава і шматлікіх гасьцей.*

## Палітыкі ЗША і ЭЗ за ўзмацненьне санкцыяў супроць рэжыму ў Беларусі

3 траўня ў Вільні завяршылася міжнародная канфэрэнцыя "Роля парлямэнтароў ва ўмацаваньні дэмакратычных дзяржаваў Усходняй Эўропы". На парадку дня віленскага Парлямэнцкага форуму былі праблема разьвіцьця дэмакратыі ва Ўсходняй Эўропе: у Беларусі, Расеі, Украіне, Малдове, Грузіі.



Удзельнікі форуму прынялі рэзалюцыю, у якой асудзілі рэжым Лукашэнкі й падтрымалі вылучэньне Алеся Бяляцкага на Нобелеўскую прэмію.

У тэксьце гаворыцца: "Мы выказваем нашую падтрымку ЗША і Эўрапейскаму Зьвязу за ўзмацненьне палітычных і эканамічных санкцыяў супраць рэжыму ў Беларусі для таго, каб былі вызваленыя палітвязьні і праведзеныя дэмакратычныя рэформы".

Удзельнікі канфэрэнцыі таксама заклікалі беларускія ўлады "вызваліць актывістаў апазыцыі з турмаў і спыніць катаваньні".

*03.05.2012*

## Дзярждэпартамэнт ЗША пра стан правоў чалавека ў сьвеце

24 траўня Дзярждэпартамэнт ЗША абнародаваў штогадовую справаздачу пра стан правоў чалавека ў сьвеце ў 2011 годзе. Частка справаздачы, прысьвечаная Беларусі, якая ў дакумэнце называецца «аўтарытарнай дзяржавай», зьмяшчае вельмі крытычныя ацэнкі.

Дакумэнт прадставіла ў Вашынгтоне дзяржаўны сакратар ЗША Гілары Клінтан. Яна адзначыла, што ў 2011 «сьвет невымерна зьмяніўся». У гэтым кантэксьце яна асабліва падкрэсьліла палітычныя зрухі ў Паўночнай Афрыцы і на Блізкім Усходзе, дзе людзі «сталі патрабаваць павагі да чалавечай годнасьці, большых эканамічных магчымасьцяў, большых палітычных свабодаў».

У прэамбуле да беларускага разьдзелу справаздачы зь нявялікімі скарачэньнямі гаворыцца:

- Найбольш значнымі праблемамі ў галіне правоў чалавека па-ранейшаму застаюцца: няздольнасьць грамадзянаў зьмяніць уладу; сыстэма, пазбаўленая прынцыпу стрыманьня і процівагі, у якой улады дапускаюць частыя і сур'ёзныя злоўжываньні; палітычна матываванае пазбаўленьне волі сотняў людзей на працягу года. Акрамя таго, улады да гэтага часу не прадставілі справаздачы аб палітычна матываваным зьнікненьні людзей у мінулым.

- Іншыя праблемы з правамі чалавека тычыліся злоўжываньняў з боку сілаў бясьпекі, якія зьбівалі затрыманых і дэман-



странтаў, празьмернай сілы для разгону мірных дэманстрантаў і, паводле паведамленьняў, катаваньняў і/або жорсткага абыходжаньня пад час сьледзтва і ў турмах. Умовы ў турмах заставаліся надзвычай дрэнныя.

- Улады выкарыстоўвалі неапраўданыя арышты, затрыманьні і зьняволеньні грамадзянаў за крытыку чыноўнікаў, за ўдзел у дэманстрацыях і зь іншых палітычных прычынаў.

- Судовай уладзе не хапала незалежнасьці, яна заставалася неэфэктыўнай і палітычна залежнай; вынікі судовых справаў часта былі перадвызначаныя, а шмат якія працэсы праводзіліся пры зачыненых дзьвярах або завочна.

- Улады працягвалі парушаць правы грамадзян на недатыкальнасьць прыватнага жыцьця. Улады далей абмяжоўвалі грамадзянскія свабоды, у тым ліку свабоду слова, друку, сходаў, асацыяцый, рэлігіі і руху. Улады канфіскоўвалі друкаваныя матэрыялы актывістаў грамадзянскай супольнасьці і перашкаджалі незалежным сродкам масавай інфармацыі ў распаўсюджваньні інфармацыі і матэрыялаў.

- Улады па-ранейшаму перашкаджалі ў дзейнасьці некаторых рэлігійных груп або забаранялі іх, час ад часу штрафуючы іх або абмяжоўваючы іх актыўнасьць. Улады перасьледавалі праваабарончыя групы, няўрадавыя арганізацыі і палітычныя партыі, адмаўляючы ў рэгістрацыі шмат якім зь іх, а потым пагражаючы ім крымінальным перасьледам за дзейнасьць без рэгістрацыі.

- Карупцыя ва ўсіх галінах улады працягвала заставацца праблемай. Гвалт і дыскрымінацыя ў адносінах да жанчын, гэтаксама як і гвалт у дачыненьні да дзяцей, таксама заставаліся праблемай. Гандаль людзьмі заставаўся сур'ёзнай праблемай. Існавала дыскрымінацыя ў адносінах да асобаў з абмежаванымі магчымасьцямі, цыганоў, этнічных і сэксуальных меншасьцяў, асобаў зь ВІЧ/СНІД, як і тых, хто імкнуўся карыстацца беларускай мовай.

- Улады перасьледавалі і час ад часу звальнялі з працы сяброў незалежных прафсаюзаў, сур'ёзна абмяжоўваючы магчымасьці працоўных ствараць і ўступаць у незалежныя прафсаюзы ды арганізоўваць і весьці калектыўныя перамовы.

- Улады ўсіх узроўняў дзейнічалі з пачуцьцём беспакаранасьці і не рабілі захадаў дзеля судовага перасьледу або пакараньня службовых асобаў ва ўрадзе і сілавых структурах, якія парушалі правы чалавека.

# Расея гатовая разганяць беларускія пратэсты

Дзяржаўная дума РФ ратыфікавала пагадненьне «Аб парадку фармаваньня і функцыянаваньня сіл арганізацыі дамовы аб калектыўнай бясьпецы (АДКБ).

Пагадненьне было падпісана 10 сьнежня 2010 году Расеяй, Армэніяй, Беларусьсю, Казахстанам, Кыргызстанам і Таджыкістанам.

Дакумэнтам, у прыватнасьці вызначаецца, што рашэньні аб складзе, тэрмінах разгортваньня і ўжываньні сіл і сродкаў сыстэмы калектыўнай бясьпекі прымаюцца Саветам АДКБ на падставе звароту адной або некалькіх дзяржаў – сяброў гэтай арганізацыі.

Пагадненьне таксама прадугледжвае далучэньне да калектыўных сіл АДКБ падразьдзяленьняў унутраных войск, паліцыі і спэцслужбаў. Яшчэ 31 жніўня 2011 году Аляксандар Лукашэнка выказаў на сустрэчы з генэральным сакратаром АДКБ Мікалаем Бардзюжым прапанову выкарыстоўваць сілы калектыўнай бясьпекі АДКБ для прадухіленьня дзяржаўных пераваротаў.

20 сьнежня 2011 году краіны - члены АДКБ падпісалі палажэньне аб парадку рэагаваньня на надзвычайныя сытуацыі, паводле якога калектыўныя сілы АДКБ могуць быць адпраўленыя ў адну з краінаў-чальцоў для вырашэньня надзвычайнай сытуацыі, калі ўлады гэтай краіны ня здольныя справіцца з сытуацыяй уласнымі сіламі.

# Хаўрус аўтарытарных кіраўнікоў



31 траўня ў Менск з візытам прыбыў прэзыдэнт Расеі Уладзімер Пуцін. Госьць прыляцеў у Менск з трохгадзінным спазьненьнем, і Лукашэнка быў вымушаны чакаць яго ў аэрапорце.

Пад час перамоваў Аляксандар Лукашэнка і Уладзімер Пуцін абмяняліся камплімэнтамі наконт інтэграцыйных посьпехаў. Пуцін заявіў: «Гэта мая першая паездка за межы Расеі пасьля ўступленьня на пасаду прэзыдэнта. Гэта натуральна. Беларусь ня проста наш блізкі, яна асаблівы партнэр».

Госьць падзякаваў Лукашэнку за яго «актыўную падтрымку інтэграцыйных працэсаў на постсавецкай прасторы» і выказаў гатоўнасьць абмеркаваць увесь комплекс актуальных пытаньняў, якія стаяць на парадку дня дзвюх дзяржаваў.

«Беларусь — самы блізкі і верны саюзьнік Расіі і будзе працягваць выступаць за разьвіцьцё цесных дружалюбных адносінаў», - заявіў у сваю чаргу Аляксандр Лукашэнка.

«Як ужо сказаў прэзідэнту [Пуціну], вельмі сімвалічна, што яго першы візыт праходзіць у Беларусь.

Ад усёй душы вітаю Вас на вашай беларускай зямлі, не чужой для Вас», - сказаў Лукашэнка. Ён таксама падзякаваў Пуціну за падтрымку ідэі будаўніцтва АЭС у Беларусі.

«Сам-насам мы абмеркавалі шэраг праблем, знайшлі поўнае ўзаемаразуменьне па гэтых праблемах. Закрытых тэм у нас няма не толькі ў эканоміцы, але і ў палітыцы, і ў ваенна-тэхнічнай сфэры. Мы як ніколі адзіныя», - падкрэсьліў беларускі кіраўнік.

# Удзельнік сьвяткаваньня ў Менску: Сучасны Сталін — гэта Лукашэнка




9 траўня ў Беларусі ўрачыста быў адзначаны Дзень Перамогі. Цэнтральнай падзеяй афіцыйнага сьвяткаваньня ў Менску стала ўрачыстае шэсьце вэтэранаў ад Кастрычніцкай плошчы да плошчы Перамогі. Узначаліў калёну Аляксандар Лукашэнка і іншыя вышэйшыя службовыя асобы. З адным з гэтых ветэранаў пазнаёміўся карэспандэнт БелаПАН.

Аўтандзіл Квінчыя меў на грудзях побач з іншымі мэдаль з профілем Сталіна. «Гэта памятныя мэдалі. Адна з выявай Іосіфа Вісарыёнавіча Сталіна і подпісам Зюганава, другая — у гонар 65-годзьдзя перамогі. Я камуніст, член Кампартыі Беларусі. Справа ня ў тым, што я грузін, і, маўляў, мне за гэта ўзнагароду далі. Гэта не ўзнагарода, а памятны мэдаль. Ты мусіш быць сталінцам і сапраўдным камуністам — ня як Шэварднадзэ, Гарбачоў і Якаўлеў, якія прадалі Савецкі Саюз. Гонар трэба мець, каб трымацца сьцяг са Сталіным! Трымайцеся прэзыдэнта Лукашэнкі — і ўсё будзе ў парадку. Чысьціня і парадак будуць, таму што ёсьць гаспадар свайго дома. Сучасны Сталін — гэта Лукашэнка».

# Дзярждэпартамент ЗША ўзнагародзіў Алеся Бяляцкага



Алесь Бяляцкі ўзнагароджаны прэміяй Human Rights Defenders Award за 2011 год.

Гэта ўзнагарода ўручаецца асобам ці няўрадавым арганізацыям, якія паказваюць выключную мужнасьць і лідэрства ў прапагандзе абароны правоў чалавека і дэмакратыі. Як заснавальнік Праваабарончага Цэнтру “Вясна”, ён прадстаўляў юрыдычную і практычную падтрымку ахвярам рэпрэсій у Беларусі.

# Амэрыканскія кангрэсмэны супраць Чэмпіянату сьвету па хакеі 2014 г. ў Менску

28 кангрэсмэнаў і сэнатараў палаты прадстаўнікоў ЗША зьвярнуліся да Міжнароднай хакейнай фэдэрацыі з заклікам не праводзіць чэмпіянат сьвету па хакеі-2014 у Менску.

Аўтары звароту, сярод якіх як дэмакраты, так і рэспубліканцы, выказваюць у лісьце глыбокую заклапочанасьць сытуацыяй з правамі чалавека ў Беларусі, адзначаючы рост уціску свабоды слова пасьля выбарчай кампаніі 2010 году.

Паводле падпісантаў, «татальная атмасфэра перасьледу ў Беларусі» дае сур’ёзныя падставы для занепакоенасьці, што бясьпека гульцоў, афіцыйных асобаў, журналістаў і заўзятараў ня будзе гарантаваная ў тым разе, калі чэмпіянат адбудзецца ў Менску. Падпісанты лічаць, што з улікам сытуацыі Міжнародная фэдэрацыя хакею мае права забраць у Беларусі чэмпіянат і перанесьці яго ў іншую краіну.

*14.05.2012*

## Беларуская апазыцыя сустрэлася з Маккейнам

У Вільні дэлегацыя беларускай апазыцыі правяла перамовы з амэрыканскім сэнатарам Джонам Маккейнам.

У сустрэчы ўзялі ўдзел прадстаўнікі пяці партыяў і рухаў: АГП, БНФ, «Гавары праўду», БХД і БСДП «Грамада».

Джон Маккейн вітаў вызваленьне з турмаў Саньнікава і Бандарэнкі. Ён цікавіўся пэрспэктывамі будучай парлямэнцкай кампаніі ў Беларусі і зазначыў, што Беларусь застаецца адным зь яголых прыярытэтаў у Эўропе, пра які ён заўсёды гаворыць на сваіх сустрэчах, дзе толькі можна.

## «Усюды ворагі»



8 траўня Аляксандар Лукашэнка выступіў са штогадовым пасланьнем да беларускага народу і Нацыянальнага сходу, у якім, як заўсёды, віну за ўсе ягоныя памылкі зваліў на ўнутраных і зьнешніх ворагаў.

На мерапрыемства, якое трансьлявалася па тэлевізіі, былі запрошаны вышэйшыя дзяржаўныя асобы краіны, чальцы ураду, кіраўнікі розных дзяржаўных структураў, буйных прадпрыемстваў, прадстаўнікі дыпляматычнага корпусу.

## Тром беларусам далі па 10 гадоў за дапамогу Кадафі

МЗС Беларусі афіцыйна пацьвердзіў, што трое беларусаў прысуджаны ў Лібіі да 10 гадоў зьняволеньня.

«Мы пацьвярджаем, што трое беларусаў сёньня прысуджаныя да 10 гадоў зьняволеньня паводле абвінавачаньня ў дапамозе рэжыму Кадафі», - заявіў агенцтву «Інтэрфакс-Захад» прэс-сакратар беларускага МЗС Андрэй Савіных.

# Роля Лукашэнкі ў сырыйскім канфлікце



*Аляксандр Лукашэнка і Башар Асад у Менску 26 ліпеня 2010.*

26 траўня ў сырыйскім горадзе Хула пасьля нападу ўрадавых войскаў знойдзены целы забітых прынамсі 90 чалавек, у тым ліку 32 дзяцей. У адказ на гэта Францыя, Нямеччына, Вялікабрытанія і іншыя краіны выслалі сырыйскіх паслоў. Амбасадар Сырыі ў Беларусі працягвае сваю працу.

Перад гэтым, 9 траўня 2012 году, адзін зь лідэраў паўстанцкай пераходнай рады Сырыі Усама Мунаджыд, які браў удзел у Форуме Свабоды ў Осла, адказаў на пытаньні журналіста Беларускай службы Радыё Свабода Франака Вячоркі. Журналіст нагадаў пра тое, што ў адпаведнасьці з дакладам Стакгольмскага інстытуту дасьледаваньняў праблемаў міру, Беларусь да 2011 году зьяўлялася другім пасьля Расеі экспартэрам узбраеньняў у Сырыю.

Сп. Мунаджыд падцьвердзіў, што так яно і ёсьць: “Гэта вельмі сумна. Лукашэнка ня толькі асьмельваецца дыктаваць, як жыць беларусам, але ўмешваецца ў забойствы й гвалт над іншымі народамі. Мы ведаем, Беларусь залежыць ад Расеі, Расея цісьне на Беларусь, каб тая пастаўляла ўзбраеньне Асаду. Беларусь экспартуе ў Сырыю зброю і боепрыпасы. А сырыйскі ўрад выкарыстоўвае іх, каб забіваць дзяцей, старых людзей, цывільнае насельніцтва ў Сырыі».

Трагічныя падзеі ў Хуле 26 траўня яшчэ раз пацьвердзілі і значна ўзмацнілі віну беларускага дыктатара перад сырыйскім народам.

*Ахвяры ў горадзе Хула.*



# Уладзімер Барадач стварыў аргкамітэт Рады нацыянальнага адраджэньня Беларусі



Беларускі палітычны эмігрант у Нямеччыне, палкоўнік спэцназу ў адстаўцы Уладзімер Барадач заявіў аб стварэньні за мяжой аргкамітэту Рады нацыянальнага адраджэньня Беларусі.

Як кіраўнік аргкамітэту сп. Барадач паведаміў сродкам масавай інфармацыі, што ў красавіку-траўні сёлета прайшлі арганізацыйныя сходы ў Расеі, Украіне, Польшчы і Літве. У іх удзельнічалі 28 беларускіх эмігрантаў і 53 прадстаўнікі зь Беларусі. Сярод іх — афіцэры арміі, МУС, КДБ, сябры грамадзкіх арганізацый. Прозьвішчы тых, хто зь Беларусі ўвайшоў у склад аргкамітэту, агучвацца ня будуць дзеля бясьпекі гэтых людзей. Паводле Барадача, выпрацавана агульная пазыцыя: «Нашы меркаваныя задачы палітычныя, эканамічныя, сацыяльныя, зьнешняя палітыка, бліжэйшыя і далейшыя задачы. Мы патлумачым, што мы хочам, як мы прапануем людзям ісьці і аднавіць у краіне канстытуцыйны парадак. Пасьля мемарандуму мы пачнём ствараць уласныя структуры. Будзе Рада нацыянальнага адраджэньня, куды ўвойдзе Камітэт нацыянальнага адраджэньня, пераходны ўрад, Рада старэйшын. Фармаваньне пераходнага ўраду — гэта будзе канчатковая мэта нашай арганізацыі».

28.05.2012

# Новы Boeing Лукашэнкі




У адным з ангараў Стамбульскага аэрапорта Sabiha Gökcen зьявілася новая VIP-машына - Boeing 767-300ER. Раней гэты самалёт належаў былому туркмэнскаму лідэру Сапармурату Ніязаву. Зараз у машыны новы гаспадар – Аляксандр Лукашэнка. На фоне ўсеагульнага зьбядненьня, развала эканомікі і прызываў з боку дыктатара да беларускіх грамадзянаў спакойна мірыцца зь цяжкасьцямі і спадзявацца на лепшае, Лукашэнка траціць на задавальненьне сваіх амбітных патрэбаў 160 млн. даляраў, такі кошт гэтага высокакамфортнага лайнера.

# Пазьняк: Уладу могуць падабраць яшчэ горшыя



*Кансэрватыўна-Хрысьціянская партыя БНФ прапанавала свайму лідэру Зянону Пазьняку рыхтавацца да свабодных прэзыдэнцкіх выбараў.*

*З гэтай нагоды журналіст радыё Свабода Сяргей Навумчык узяў інтэрвію ў сп.Пазьняка. Падаем тут скарочаны тэкст размовы, які быў выстаўлены на сайце радыё.*

**Навумчык:** У красавіку паліткамітэт КХП БНФ абнародаваў заяву, дзе сказана, што «Асоба, якая ёсьць альтэрнатывай дыктатуры і якую Партыя Фронту прапануе на вольныя выбары прэзыдэнта — Зянон Пазьняк. Рацыянальна было б прапанаваць Зянону Пазьняку ўжо цяпер (адразу пасьля пастановы Сойму) фармаваць групу падтрымкі прэзыдэнта вольнай Беларусі, не абмяжоўваючы колькасна яе склад». А днямі Сойм БНФ прапанаваў Вам рыхтавацца да ўдзелу ў «свабодных і дэмакратычных прэзыдэнцкіх выбарах». Тут, напэўна, трэба раскласьці пытаньне на некалькі частак. Першая — што трэба разумець пад такімі выбарамі, і калі яны рэальныя ў Беларусі?

**Пазьняк:** Пад гэтым трэба разумець перш за ўсё тое, што беларусы павінны быць падрыхтаваныя да нечаканых перамен. Таму што дыктатура, як правіла, абвальваецца. І вось тут улада не павінна валяцца пад нагамі. Інакш яе падбяруць яшчэ горшыя. Ёсьць ужо вопыт, у тым ліку афрыканскі. Так што пад гэтым трэба разумець фармаваньне сілы, якая будзе рыхтаваць вольную нацыянальную Беларусь. Гэта значыць, нацыянальных палітыкаў, якія стаяць на нацыянальнай ідэі, якія прымаюць нацыянальныя каштоўнасьці і разумеюць нацыянальны інтарэс. Гэта тыя палітыкі, якія прыводзяць да дэмакратыі і незалежнасьці. Другіх выпадкаў мы ня ведаем. Вось гэтая мэта пастаўлена і яна ўжо пачынае рабіцца.

**Навумчык:** Вось Вы сказалі — «дыктатуры абвальваюцца», а якім чынам? Сама дыктатура абвальваецца ці хтосьці яе абвальвае? І якія варыянты?

**Пазьняк:** Гэтыя пытаньні я ня буду абмяркоўваць. Таму што задача пастаўленая — падрыхтаваць сілу нацыянальную, падрыхтаваць спэцыялістаў, падрыхтаваць групу, якая будзе думаць, прагназаваць і ствараць будучыню вольнай Беларусі. Бо зразумела, што адразу павінны адбыцца выбары дэмакратычныя, і іх нехта павінен падрыхтаваць. Хто іх будзе рыхтаваць? Хто? Ніхто? Такога ня можа быць. Іх павінны рыхтаваць беларусы. Павінна рыхтаваць сіла, якая дбае пра нацыянальную будучыню краіны. Вось гэта мы рыхтуем. А як будзе абвальвацца і як абвальваць — гэта пытаньне другое. І на гэтае пытаньне пакуль я адказваць ня буду, хаця пра гэта мы таксама думаем, робім, што можам і будзем рабіць. Але паўтараю: зараз стаіць пытаньне аб стварэньні нацыянальнай сілы, якая можа падрыхтаваць будучыню Беларусі.

**Навумчык:** Ну вось у сувязі з гэтым — наступнае пытаньне. Ці не баіцеся Вы, што Вашыя апанэнты з апазыцыйнага лягеру могуць заявіць — вось Пазьняк хоча, каб нехта зрабіў дэмакратычныя ўмовы, а ён потым возьме ўдзел у выбарах?

**Пазьняк:** Што датычыць апанэнтаў так званых, то ўсё, што яны казалі, кажуць і будуць казаць — мне добра вядома. І таму ня мае ніякага значэньня, што яны кажуць. Мае значэньне, што мы зробім. Ва ўсякім разе, калі ўжо гаварыць пра палітычных апанэнтаў і Пазьняка, то Пазьняк нешта зрабіў на палітычным полі. А гэтыя людзі не зрабілі нічога, акрамя шкоды. Хай гавораць, мы будзем рабіць сваю справу.

**Навумчык:** Ці дапускаеце Вы кансультацыі з прадстаўнікамі іншых партыяў і рухаў у гэтай справе?

**Пазьняк:** Цалкам магчыма. Гэта будзе вырашацца на індывідуальным ўзроўні. Цалкам магчыма, бо людзей, у якіх баліць сэрца за Беларусь, ёсьць усюды. Іх трэба сабраць. Так што я гэта дапускаю. Але паўтараю, гэта можа быць размова на індывідуальным ўзроўні.

**Навумчык:** Вы ўжо далі адказ сваім аднапартыйцам, і які гэты адказ?

**Пазьняк:** Была рабочая гаворка і я ўжо прыступаю да працы. Мы цудоўна разумеем, што гэта пытаньне трэба абавязкова прысьпешваць, арганізоўваць, інакш можа здарыцца сытуацыя безкантрольнага развалу. І гэта вельмі небясьпечна. Пра гэта мы якраз і думаем, калі выстаўляем такія задачы для дзейнасьці. Тут ізноў паўтару тэзіс, што нацыянальную палітыку робяць толькі нацыянальныя палітыкі, тыя людзі, якія зыходзяць з нацыянальных інтарэсаў, каштоўнасьцяў і разуменьня таго, што неабходна для выратаваньня нацыі.

Гаварыць зараз аб дэмакратыі трэба, але трэба і разумець, што дэмакратыя і барацьба за дэмакратыю (як і правы чалавека) — ёсьць зьявы вытворныя ад этнацыду, які адбываецца на Беларусі. На Беларусі зьнішчаюць нацыю, зьнішчаюць мэтадычна, тэхналягічна і мэтанакіравана. І зьнішчэньне правоў чалавека — гэта вынік зьнішчэньня нацыі. Гэта вынік забароны школаў, вынік забароны мовы, цыркуляраў, гэта вынік траўленьня молодзі і г. д. І пры такой дыктатуры галоўная задача — змаганьне з дыктатурай.

Пры гітлераўскай дыктатуры было б сьмешна, калі б нехта змагаўся за дэмакратыю. Трэба было змагацца з Гітлерам. Дыктатура, якая існуе ў Беларусі, антыбеларуская, антынацыянальная, яна зьнішчае нацыю і за яе сьпіной стаіць Масква. Гэта вялікая сіла. І гавораць пра правы чалавека, не гаворачы аб галоўным — гэта ілюзыі, інтфантылізм. Мы цудоўна разумеем: не было б незалежнай Беларусі ў 90-х, калі б за яе не змагаліся нацыянальныя сілы, якія разумелі, чаму патрэбна незалежнасьць, на чым яна палягае і што яна дае. Калі б тады была такая псэўдаапазыцыя, як зараз, мы ня мелі б нічога, нас бы ўжо не было.

**Навумчык:** Можна так зразумець, што Вы фактычна згаджаецеся ўдзельнічаць у наступных, дакладней, у свабодных прэзыдэнцкіх выбарах?

**Пазьняк:** Гэта будуць выбары пасьля абвалу дыктатуры. Пры дыктатуры ніякіх выбараў ня будзе. Гэта трэба забыць. Гэтым займаецца псэўдаапазыцыя, своеасаблівая структура рэжыму. Гэта людзі, якія ў 2010 годзе стварылі правакацыю, дапамаглі Лукашэнку ўмацаваць і легітымізаваць у пэўнай ступені сваю ўладу і селі ў турму. Яны наіўныя, яны не разумеюць, у якой палітыцы яны ўдзельнічаюць. Яны ўвесь час удзельнічаюць у праектах рэжыму. І на гэтыя выбары яны пойдуць. З турмы вернуцца — ізноў пойдуць на выбары. Гэта ня ёсьць нацыянальныя палітыкі. Таму ні аб якіх выбарах зараз гаворкі быць ня можа. На выбары пойдуць толькі тыя, якія будуць дапамагаць рэжыму. Альбо, якія не разумеюць, што яны робяць. Маюцца на ўвазе тыя выбары, якія будуць пасьля ліквідацыі рэжыму. А рэжым будзе ліквідаваны, ён ужо доўга ня будзе, мы гэта бачым. І мы павінны быць гатовыя да гэтых выбараў.

*15.05.2012*

# Чэмпіянат сьвету па хакеі пакінулі ў Менску

Кангрэс Міжнароднай фэдэрацыі хакею (IIHF) на пасяджэньні ў Хэльсынкі 18 траўня зацьвердзіў Менск месцам правядзеньня чэмпіянату сьвету ў элітным дывізіёне ў 2014 годзе.

Пад час адкрыцьця другога дня кангрэсу Міжнароднай фэдэрацыі хакею яе кіраўнік Рэнэ Фазэль выказаўся супраць пераносу чэмпіянату сьвету 2014 году зь Беларусі. Хакейны функцыянэр традыцыйна спаслаўся на тое, што нельга зьмешваць спорт і палітыку.

Ва ўступнай прамове Фазэль заявіў, што забароны і байкоты спаборніцтваў абясцэньваюць ідэі спорту, падкрэсьліўшы, што гэта агульнае меркаваньне Міжнароднай фэдэрацыі хакею. На яго перакананьне, спорт ня можа і не павінен быць палітычным інструмэнтам, а мусіць весьці да замірэньня і адкрыцьця новы межаў.

Заклікі перанесьці чэмпіянат сьвету 2014 году з таталітарнай Беларусі ў дэмакратычную дзяржаву ва ўсю моц загучалі пасьля падзеяў сьнежня 2010 году. Патрабаваньне пазбавіць Беларусь хакейных спаборніцтваў падтрымалі Эўрапарлямэнт і Кангрэс ЗША. Эўрадэпутаты Марэк Мігільскі з Польшчы і славуты славацкі хакеіст Петэр Шцястны нават арганізавалі ў сеціве збор подпісаў за перанос чэмпіянату сьвету-2014. Амаль тры дзясяткі амэрыканскіх кангрэсмэнаў заклікалі прэзыдэнта Міжнароднай фэдэрацыі хакею Рэне Фазеля не праводзіць першынства ў Менску, паколькі многія апазыцыянэры працягваюць заставацца ў турмах, а актывісты грамадзянскай супольнасці па-ранейшаму арыштоўваюцца і запужваюцца.

# “Не на мне беларускі рух пачынаўся, не на мне ён і скончыцца”



*30 траўня сёлета споўнілася 85 гадоў выбітнаму дзеячу беларускага замежжа, навукоўцу і актыўнаму папулярызатару беларускай культуры ў Амэрыцы і па цэлым сьвеце сп. Вітаўту Кіпелю. Рэдакцыя нашай газэты зьвярнулася да шаноўнага юбіляра з просьбаю адказаць на некалькі пытаньняў, якія падрыхтавала рэдактарка Ганна Сурмач.*

**Сурмач:** Сп. Вітаўт, дзесяць гадоў таму, калі я працавала на Радыё Свабода, я рабіла перадачу да Вашага 75-гадовага юбілею. Што за гэты прабегшы час удалося Вам зрабіць у Вашым навуковым і творчым жыцьці, што лічыце найбольш важкім?

**Кіпель:** Не агледзеўся, а дзесяць гадоў прайшло!

За гэтыя мінулыя дзесяць гадоў напісаў некалькі артыкулаў пра беларусаў у такія энцыкляпедыі, як “Энцыкляпедыя горада Чыкага”(2005), “Энцыкляпедыя амэрыканскіх культураў”(2006) і інш. У інтэрнэце на сайце WorldCat Identities, калі напісаць маё прозьвішча, то можна знайсьці статыстыку пра тое, што мае кнігі закаталягізаваныя ў 332 бібліятэках ЗША і Канады, але яны ёсьць і ў бібліятэках шмат іншых краінаў. Гэта нядрэнна, я задаволены!

Англамоўная выданьне кнігі “Belarusans in US” ёсьць цалкам, увесь тэкст у інтэрнэце, і ёю карыстаюцца сотні наведвальнікаў-студэнтаў. Цяпер афармляю другое выданьне гэтай кнігі. Напісаў я таксама дзясяткі артыкулаў у розныя часапісы.

**Сурмач:** У той час свае 75-гадовыя юбілеі вы сьвяткавалі абодва – Вы і сп. Зора, сьв. ёй памяць. Усё ваша сумеснае жыцьцё вы працавалі разам дзеля беларускай справы. Якія справы з гэтых сумесных Вам давялося завяршаць аднаму, ці рабілі Вы нешта з таго, што не было дароблена сп. Зораю?

**Кіпель:** З друкаў, што я закончыў па сьмерці Зоры, гэта два выданьні - “Беларускі друк на Захадзе” (Менск 2003, Нью-Ёрк 2004) і выданьне (Варшава, Нью-Ёрк 2006). Гэтыя кнігі разыходзяцца, яны яшчэ не ўсюды закаталягізаваныя. Я лічу гэтыя выданьні вельмі важнымі, бо яны адлюстроўваюць жыцьцё эміграцыі, пра што яшчэ мала напісана.

Іншая кніга, у падрыхтоўцы выданьня якой я дапамагаў укладальніку Сяргею Шупу – гэта “Дні аднаго жыцьця” (Дзённікі Зоры Кіпель).

**Сурмач:** Вы – шматгадовы дырэктар Беларускага Інтытуту Навукі і Мастацтва ў Нью-Ёрку (БІНІМ). Як бачыцца Вам будучыня гэтай значнай і паважанай у беларускім замежжы інстытуцыі?

**Кіпель:** Кіраўніцтва БІНІМу пераходзіць у маладыя рукі. Мы са сп. Запруднікам і праф. Бэрдам ужо не маладыя. Цяперашняе навуковае супрацоўніцтва з маладымі - Лявонам Юрэвічам, Натальляю і Алегам Гардзіенкамі – выдатнае. Малодшымі павінна быць перанятае і адміністраваньне: пошукі новых сяброў, фінансы і г.д.

Уважаю, што БІНІМ павінен існаваць, як амэрыканска-беларуская ўстанова, дзе супрацоўнічаюць – кіруюць арганізацыяй, выдавецтвам маладыя навукоўцы – амэрыканцы і беларусы з Бацькаўшчыны. Фінансавае забесьпячэньне павінна быць амэрыканскае: Фундацыя Крэчэўскага, сяброўскія складкі і ахвяраваньні.

**Сурмач:** Падобнае пытаньне і адносна будучыні беларускай эміграцыі ў Амэрыцы. Як Вы мяркуеце, ці захаваецца тут актыўная беларуская прысутнасьць, ці здолее новая эміграцыя ня толькі захаваць зробленае вашым пакаленьнем, але і разьвіцца на новым узроўні? Што для гэтага трэба рабіць беларускім арганізацыям?

**Кіпель:** Адносна будучыні беларускай эміграцыі ў ЗША пытаньне, на мой погляд, павінна ставіцца так: ці будзе эміграцыя існаваць, ці будзе эміграцыя дзеіць? Існаваць эміграцыя будзе. Але, дзейнасьць будзе залежаць ад дынамічнасьці і сьведамасьці новых эмігрантаў. Для іх дзейнасьці плятформа ёсьць, створаная папярэднімі пакаленьнямі, трэба толькі ахвота і ахвярнасьць. Беларуская справа трымаецца на ахвярнасьці і энтузіязме.

**Сурмач:** З вышыні свайго жыцьцёвага вопыту і ўзросту, што б хацелі сказаць ці пажадаць беларускай моладзі ў Амэрыцы?

**Кіпель:** Што можна сказаць у 85 гадоў? У Яўхіма Кіпеля ў ягонай кнізе “Эпізоды” ёсьць выраз, які ён сказаў сьледчаму на допыце ў 1935 годзе, калі быў арыштаваны пад час сталінскіх рэпрэсіяў: “Не на мне беларускі рух пачынаўся, не на мне ён і скончыцца”. Я далучаюся да гэтай думкі, але дадам яшчэ тое-сёе.

Беларуская нацыянальная дзяржава пакуль што ня створаная. Але сёньня Беларусь – гэта самастойная дзяржава. Заданьнем-абавязкам маладога амэрыканска-беларускага пакаленьня ёсьць пашыраць на Захадзе, абасноўваць ідэі Беларускай Нацыянальнай Дзяржавы. Форма дзяржаўнасьці пры сучаснай уладзе – гэта “зялёнае сьвятло” для нацыянальнага генацыду. Перашкодзіць генацыду, зьнішчэньню нацыянальнай культуры – абавязак усіх беларусаў Вольнага сьвету, асабліва маладых.

*Ад імя Рэдакцыі газэты сардэчна віншуем сп. Вітаўта са слаўным юбілеем і жадаем яшчэ шмат гадоў шчасьлівага і плённага жыцьця.*

## ВІТАЎТУ КІПЕЛЮ
## Дырэктару БІНіМа
## на 85-я ўгодкі плённага жыцьця



## Сяброўская эпіграма

*Напоўнены дынамічнай энэргіяй,*
*пераможны над веснавой алергіяй,*
*каб факты мінулага не праходзілі міма,*
*Ты ставіш на іх пячатку БІНіМа,*
*бо прыйшоў на гэты сьвет,*
*каб пакінуць кніжны сьлед.*

## Высока паважаны і дарагі др. Кіпель!

Віншую Вас з вялікім юбілеем – 85 угодкамі нараджэньня, жадаю Вам шмат гадоў добрага здароўя і плёну ў Вашай цэннай працы на карысьць нашай Бацькаўшчыны-Беларусі.

Ад імя Рады БНР хачу выказаць Вам глыбокую ўдзячнасьць за велізарную парцу, якую Вы робіце ў галіне захаваньня культурнай спадчыны тае неад'емнае часткі беларускага народу, якой ёсьць беларуская дыяспара ў сьвеце.

Ад імя Рады БНР таксама маю гонар выказаць Вам належнае прызнаньне за Вашую працу над публікацыяй Архіваў БНР і Ваш уклад у дзейнасьць Рады пад час Вашага тэрміну ў якасьці Першага Заступніка Старшыні Рады БНР.

*З глыбокай пашанаю*
*Івонка Сурвілла*
*Старшыня Рады Беларускай Народнай Рэспублікі*

*Жыве Беларусь!*

## Рада дырэктараў Фундацыі Крэчэўскага

сардэчна віншуе дырэктара БІНІМу і сябра Рады дырэктараў Фундацыі сп. Вітаўта Кіпеля зь ягоным слаўным юбілеем. Доўгія гады нашага сумеснага супрацоўніцтва ў галіне выданьня беларускіх друкаў на чужыне далі плённыя вынікі. Спадзяемся на далейшую ўзаемнасьць і жадаем Вам новых творчых і навуковых набыткаў, якія ўзбагацяць ня толькі беларускую культуру, але і надалей будуць годна папулярызаваць Беларусь у сьвеце.

# Жанчыны беларускага замежжа

*У траўні адзначыла свой дзень народзінаў актыўная удзельніца беларускага грамадзкага жыцьця ў Амэрыцы сп. **Ала Орса Рамана**. З гэтай нагоды нам даслалі свае зацемкі вядомыя людзі зь Беларусі, якія хацелі такім чынам ня толькі павіншаваць сп. Алу , але і ўшанаваць яе шматгранную дзейнасьць на беларускай ніве, як у эміграцыі, так і на Бацькаўшчыне, зь якою не парывае сувязі цэлае жыцьцё.*

## Наша Ала

Уладзімер Арлоў

Дастаткова сказаць “Ала”, і, здаецца, кожны беларускі літаратар або музыка,выкладчык або навуковец зразумее: гаворка ідзе пра Алу Орсу Рамана.

Ала – гэта прыгажосьць, вытанчанасьць і далікатнасьць, якіх, напэўна, хапіла б не на адну жанчыну.

Ала – гэта востры, дасьціпны розум у спалучэньні з бліскучай адукаванасьцю.

Ала – гэта закаханасьць у жыцьцё і ўменьне цаніць яго кожную хвіліну.

Ала – гэта выдатная фізычная форма, якая нібыта ані не зьмянілася з тых часоў, калі спадарыня Орса Рамана вучыла беларускую моладзь у Амэрыцы нашым народным танцам, шмат гадоў кіруючы танцавальным ансамблем “Васілёк”.

Ала – гэта такая глыбокая абазнанасьць у сучасных беларускіх праблемах, што ёй мог бы пазайздросьціць не адзін жыхар менскага праспэкту Незалежнасьці.



У царкве на Вялікдзень

Ала – гэта ўдзельніца практычна ўсіх ініцыятываў беларускай дыяспары.

Ала – гэта ўспадчаны ад бацькоў талент пэдагога, які дапамог прафэсару хіміі Нью-Ёрскага унівэрсытэту Орсе Рамана навучыць гаварыць па-беларуску ня толькі сыноў, але і мужа-амэрыканца італійскага паходжаньня.

Але найперш Ала – гэта ахвярнасьць.

І тут зноў немагчыма не згадаць ейных бацькоў, што працавалі за польскім часам у Наваградзкай беларускай гімназіі, дзе з двух дзясяткаў выкладчыкаў заробак ад палякаў атрымлівалі ўсяго чацьвёра, якія (у іх ліку і Аляксандар Орса) дзялілі свае грошы на ўсіх калегаў. Гэтая ахвярнасьць і пэдагагічныя здольнасьці Алінага бацькі найбольш яскрава выявіліся, калі ён займаў пасаду дырэктара славутай Беларускай гімназіі імя Янкі Купалы ў Заходняй Нямеччыне – вучэльні, што выхавала эліту нашай паваеннай эміграцыі. Сярод гімназістак была і малодшая дачка Орсаў Ала.

Яна добра памятае, як у доме ейных бацькоў ужо за акіянам, у 1950 годзе, адбылося адно зь першых у Нью-Ёрку сьвяткаваньняў Дня Волі 25 сакавіка.

Мне ўяўляецца, што менавіта дзеля таго, каб некалі гэты дзень стаў галоўным дзяржаўным сьвятам нашага календара, дзеля таго Ала і заснавала Культурна адукацыйную фундацыю Орса Рамана.

Яе ахвярнасьць удзячным словам успамінаюць пісьменьнікі і рок-музыкі, студэнты і маладзевыя актывісты, школьныя настаўнікі і цэлыя школы – сотні, а можа, і тысячы беларусаў.

Ала Орса Рамана – з таго шэрагу беларускіх жанчын, які пачынаецца з Рагнеды і Эўфрасіньні.

# Чалавек, пра якіх кажуць: на такіх усё трымаецца

Вінцук Вячорка

У электронным адрасе Алы Орсы Рамана ёсьць слоўца "Мікіта". Які Мікіта, чаму Мікіта? "Мікіта" - прыгожы і энэргічны, з уладарным рытмам беларускі танец, які, паводле Еўдакіма Раманава, "даволі ўтомны і патрабуе спрыту". І нездарма Ала ўзяла яго сабе за "аватар" – бо прыгожая, энэргічная, працавіта-нястомная і натхнёная з маленства ды на ўсё жыцьцё роднаю Беларусяй ды беларушчынай.

Ала – прафэсар хіміі ў City University "сталіцы сьвету", як заслужана называюць Нью-Ёрк. У мяне, закаранелага гуманітара, прафэсійная веда ў галіне дакладных навук заўсёды выклікае піетэт, але яшчэ большую пашану – калі чалавек, абазнаны ў такой сур'ёзнай справе, як хімія, ёсьць прызнаным аўтарытэтам у справе беларускай.

Беларушчына для Алы – сынонім прыгоства. Адораная ад Бога харэаграфічным талентам, стваральніца і душа ансамблю "Васілёк", Ала даглядала гэты агмень для некалькіх пакаленьняў моладзі цягам дзесяцігодзьдзяў. У "Васільку" дух беларушчыны выпраменьваў магнэтызм, вабіў новых і новых людзей годнасьцю, энэргіяй, прафэсіяналізмам і найперш, вядома, непаўторнай прыгажосьцю беларускага танцавальнага мастацтва. Сэнсацыяй і крыніцай незабыўных уражаньняў стаўся прыезд "Васілька" ў Беларусь у 1990 годзе, калі імпульсам беларушчыны ўзаемна натхнялася моладзь Бацькаўшчыны і моладзь дыяспары – гадаванцы Алы.

Ала Орса Рамана – чалавек з той кагорты, пра якіх кажуць: на такіх усё трымаецца. Усе разнастайныя праявы жыцьця – сям'я й узгадаваньне дзяцей, творчыя й артыстычныя таленты, не абы-якія арганізатарскія здольнасьці, чалавечая спагадлівасьць – усё гэта знаходзіцца ў яе ў гармоніі зь беларускім пакліканьнем. Сказаць, што Ала – чалавек ідэйны, замала, каб вызначыць яе гатоўнасьць адстойваць беларускія нацыянальныя ідэалы.

У беларускай нацыянальнай палітыцы Ала – адна з найбольш шанаваных і аўтарытэтных сябраў Рады БНР. Яна ведае, а галоўнае – адчувае становішча на Бацькаўшчыне. Мае непарушныя прынцыпы, адкрытая да супрацы з новымі вызнаўцамі беларускай незалежніцкай ідэі. Пачуцьцё салідарнасьці з тымі, хто змагаецца за беларускую праўду на Бацькаўшчыне, з паняволенымі - для яе сьвятое.

У беларусазнаўстве Ала - сябра Беларускага Інстытуту Навукі й Мастацтва ў Нью-Ёрку, Наглядальнае Рады Цэнтру Беларускіх Дасьледаваньняў у Канзасе. Пералічыць жа яе грамадзкія абавязкі спатрэбіцца асобны артыкул.

Дзе пачуцьцё місіі – там ахвярнасьць. Ала з сынамі стварылі ўнікальную для беларускае справы ў глябальным маштабе сямейную дабрачынную фундацыю. Не зьлічыць, на колькіх кнігах і дысках стаіць пазнака “Прафінансавала выданьне Культурна-адукацыйная фундацыя Орса Рамана”. Ала асабіста ведае мноства беларускіх культурнікаў, арыентуецца ў іхным роўні, сочыць за посьпехамі. І заробленыя штодзённай прафэсійнай працай грошы дапамагаюць беларускім ініцыятывам на Бацькаўшчыне стаць на крыло. Гэта і музыка, і літаратура, і – стратэгічна важна для Алы – беларуская мова. Ала Орса Романа – не філёляг, не лінгвіст, але мяне заўсёды ўражвала, што яна ня горай, а лепей за некаторых мовазнаўцаў зь Беларусі ведае і разумее, што адбылося з нашаю моваю, а галоўнае – што трэба рабіць практычна, каб яе вярнуць у вусны новых пакаленьняў, каб аднавіць пасьля эпохі каляніізатарскіх скажэньняў яе першародную красу.

Бываючы ў Беларусі, яна ані на хвіліну не забываецца на місіянэрскі абавязак, з гумарам і спагадаю паказваючы людзям, якія прызабылі родную мову, што гаварыць па-беларуску прыгажэй і натуральней, чым па-чужому. Сталіся вартымі насьледаваньня моўныя прыгоды Алы на Бацькаўшчыне. "Хотите завтрак?" "Не-е, даражэнькая, не хачу есьці заўтра, хачу сьняданак сёньня!"

Ала – дбайная маці й бабуля, якая мае права ганарыцца сваімі сынамі ды іхнымі нашчадкамі.

## Весткі з Вільні

# Чарговы сход ТБК



26 траўня, як звычайна ў апошнюю суботу месяца, у Таварыстве беларускай культуры ў Вільні адбылася чарговая імпрэза. За весну ў Вільні прайшоў цэлы шэраг падзеяў, зьвязаных зь беларускай культурай, а таму асноўнай тэмай імпрэзы было прадстаўленьне гэтых мерапрыемстваў.

На пачатку імпрэзы прэзыдэнт студэнцкае асацыяцыі «StudAlliance» Кірыл Атаманчык прэзэнтаваў сэрыю мерапрыемстваў, арганізаваных асацыяцыяй, пад назвай «Беларуская вясна». У межах гэтае кампаніі адбылося некалькі фотавыставаў, мастацкіх перформансаў, а напрыканцы траўня кампанію гучна закончыў канцэрт «Салідарнасьць зь Беларусьсю», на якім выступілі вядомы Берасьцейскі альтэрнатыўны гурт "Сьцяна" і ня менш вядомы выканаўца хіп-хопа Вінсэнт (які сыграў асноўную ролю ў фільме «Жыве Беларусь»).

Далей размову працягнуў віленскі беларускі навукоўца Юрась Юркевіч. Юрась з дапамогай калегаў апошнім часам зрабіў велізарную працу па зборы невядомых дакумэнтаў часоў БНР. На нашай імпрэзе Юркевіч прэзэнтаваў вялікую колькасьць дакумэнтаў з сабранага матэр'ялу. Сярод дакумэнтаў, копіі якіх паказваў навукоўца, былі невядомыя дакумэнты Антона Луцкевіча і іншых знаных беларускіх дзеячоў, БСРГ, беларускіх вайсковых фармаваньняў таго часу, а таксама невядомыя фотаздымкі.

Таксама ў траўні гэтага году ў нашым Таварыстве адбылася надзвычай радасная падзея – споўнілася 92 гады заслужанаму чальцу нашае арганізацыі Ніне Брылеўскай.

Сп. Ніна пражыла надзвычай доўгае і насычанае падзеямі жыцьцё, доўгі час працавала настаўніцай, ад самага ўтварэньня ТБК зьяўляецца адданай яго прыхільніцай. Яшчэ раз віншуем сп. Ніну зь Днём Народзінаў!

*Пятро Шыба*

# Пратэст

У мінулым нумары нашай газэты мы паведамлялі пра падзеі ў расейскім Іркуцку, дзе беспадстаўна пераследуюць лідэраў беларускіх грамадзкіх арганізацыяў. Расейскія праваахоўныя органы ў Іркуцку распачалі супраць 26-гадовага тамтэйшага беларуса Аляксея Кухты справу аб экстрэмізме. Яму выставілі надуманае абвінавачаньне паводле артыкулу «Узбуджэньне нянавісьці альбо варожасьці, а таксама зьнявага чалавечай годнасьці».

Аляксей Кухта — актывіст маладзёвага клюбу «Крывічы», які дзейнічае пры Іркуцкім таварыстве беларускай культуры імя Яна Чэрскага. У сувязі з справай аб «беларускім экстрэмізме» быў праведзеныператрус у офісе Іркуцкага таварыства беларускай культуры імя Яна Чэрскага і на кватэры яго старшыні Алега Рудакова. У кватэры Рудакова былі канфіскаваныя асабістыя камputары.

На зварот Згуртаваньня беларусаў сьвету "Бацькаўшчына" падтрымаць іркуцкіх беларусаў і выказаць пратэст расейскім уладам супроць гэтай зьневажальнай акцыі Галоўная ўправа БАЗА таксама даслала свой пратэст наступнага зьместу.

*Пасольства Расейскай Федэрацыі ў Рэспубліцы Беларусь*
*Пракуратура Кіраўскага раёна г. Іркуцка*

*Галоўная управа Беларуска-Амэрыканскага Задзіночаньня выказвае рашучы пратэст супроць надуманага крымінальнага перасьледу Маладзёвага клуба "Крывічы" пры Іркуцкім таварыстве беларускай культуры імя Яна Чэрскага і старшыні таварыства – Алега Рудакова. Абвінавачваньне іх у экстрэмізме ня мае пад сабою ніякага грунту. Многія сябры нашай арганізацыі асабіста ведаюць Алега Рудакова як прыстойнага чалавека, добрага арганізатара грамадзкага жыцьця беларускай дыяспары ў Іркуцкай вобласьці. Зь ім яны сустракаліся ў Менску на зьездах беларусаў сьвету, якія праводзяцца раз у чатыры гады і на якія зьязджаюцца беларусы з розных краінаў. Усіх іх аб'ядноўвае жаданьне падтрымліваць кантакты са сваёю Бацькаўшчынаю.*

*Алег Рудакоў, як усялякі сучасны культурны, інтэлігентны чалавек у сьвеце, паважае краіну свайго паходжаньня, свае беларускія карані, культуру і звычаі сваіх продкаў. Такой культуры паводзінаў ён вучыць маладых беларусаў. Ягоная праца ніколі ня мела экстрэмісцкага накірунку, не была скіраваная на культывацыю антырускіх настрояў. Гэта праца дзеля падтрыманьня беларускага нацыянальнага жыцьця, дзеля духоўных патрэбаў тамашніх беларусаў. Расейскія ўлады не павінны былі б чыніць перашкоды дзейнасьці такой арганізацыі, бо з гісторыі добра вядома, які значны ўклад зрабілі беларускія перасяленцы у асваеньне цэлай Сібіры і Іркуцкага краю ў прыватнасьці. Яны маюць права на сваё нацыянальна-культурнае жыцьцё, і гэта не павінна ў наш час успрымацца, як нейкі эстрэмізм ці нацыяналізм. Людзі шануюць сваю гісторыю і сваіх нацыянальных дзеячаў так жа, як гэта робіць і расійскі народ, і іншыя народы сьвету.*

*Сп. Рудакоў узнагароджаны шматлікімі ганаровымі граматамі, у тым ліку Ганаровай граматай Губернатара Іркуцкай вобласці. Ён з'яўляецца сябрам Кансультатыўнага Савета па справах беларусаў замежжа пры Міністэрстве культуры Рэспублікі Беларусь. У красавіку 2010 года Указам № 195 Прэзідэнта Рэспублікі Беларусь за асабісты ўклад у захаваньне традыцый беларускай культуры Алег Рудакоў быў узнагароджаны медалём Францыска Скарыны.*

*Гэты надуманы перасьлед нагадвае нам сталінскія часы і зусім не да твару сёньняшняй Расіі, якая трактуе сябе ў сьвеце як дэмакратычная дзяржава, дзе абаронены правы чалавека, у тым ліку ягонае права на сваё нацыянальна-культурнае вызначэньне.*

*Галоўная управа Беларуска-Амэрыканскага Задзіночаньня*
*Нью-Ёрк 20 красавіка 2012*

Свае пратэсты супроць антызаконных дзеяньняў расейскіх уладаў выказалі беларускія суполкі з іншых краінаў. Непасрэдна ў рэдакцыю нашай газэты даслаў тэкст адпраўленага на адрас расейскіх уладаў ліста ад імя беларускай нацыянальна-культурнай арганізацыі ў г. Львове сп. Аляксандр Ядчанка. У лісьце гаворыцца пра тое, што ў Львове існуюць расейскія і шмат якія іншыя нацыянальныя аб'яднаньні, і ніхто іх не перасьледуе за нацыянальна-культурную дзейнасьць. Перасьлед беларускіх суполак у Іркуцку львоўскія беларусы называюць "Гвалтам, парушэньнем законнасьці, правоў чалавека, свабоды і маралі..."



Аляксандр Ядчанка

# Літоўская Рэспубліка ня ёсьць працягам ВКЛ

Такое меркаваньне выказаў літоўскі прафэсар Альвідас Якубайціс з Інстытуту міжнародных дачыненьняў і паліталёгіі Віленскага ўнівэрсытэту. Ён прапануе падставай фармаваньня гісторыі краіны лічыць міжваенную Літву
На думку прафэсара, літоўцы могуць захапляцца ВКЛ, аднак нельга абвергнуць той факт, што дзяржава з манархічнай формай кіраваньня, якая грамадзянамі прызнавала ўсяго нейкіх 10 працэнтаў сваіх жыхароў, ня мае нічога агульнага з дэмакратычнай і этнічнай Літвой, дзе грамадзянскія правы гарантаваныя ўсім.

«У Канстытуцыю Літвы закралася памылка — там пішацца, што літоўская нацыя шмат стагодзьдзяў таму стварыла дзяржаву, што можна лічыць ускоснай спасылкай на Рэч Паспалітую Абодвух Народаў. Аднак сучасная літоўская нацыя — гэта ня Рэч Паспалітая. Літоўская этнічная дзяржава — гэта плён змаганьняў XIX стагодзьдзя, у гэтым стагодзьдзі ў адно цэлае былі злучаныя дзьве на першы погляд розныя рэчы — нацыя і дзяржава. Рэч Паспалітая, або ВКЛ, грунтавалася на разьдзяленьні нацыяў і грамадзянства (civitas). Арыстакратычная шляхецкая нацыя істотна адрозьніваецца ад таго, што ў другой палове XIX стагодзьдзя пачалі называць літоўскай нацыяй», — цьвердзіць А. Якубайціс.

У Літве цяпер канкуруюць дзьве канцэпцыі гісторыі Літоўскай дзяржавы — адна зь іх цяперашнюю дзяржаўнасьць непасрэдна зьвязвае зь міжваеннай Літвой, другая — з ВКЛ і Рэччу Паспалітай. Гэта вызначае і сувязь грамадзянаў з Эўразьвязам — эўрааптымісты захапляюцца ВКЛ, а эўраскептыкі бароняць ідэю этнічнай дзяржавы.

«Сёньня мы сутыкаемся з новай сытуацыяй, калі ВКЛ выступае як аргумэнт не гістарычнай, а палітычнай самасьвядомасьці. Інтэграцыя ў Эўразьвяз, глябалізацыя, шматкультурнасьць і зьмена ролі этнічнай дзяржавы вярнулі гісторыю фэадальнай дзяржавы на дыскусійную арэну. ВКЛ сёньня падаецца як прататып Эўразьвязу, а мадэрная этнічная дзяржава як нешта састарэлае і вартае крытыкі», — кажа А. Якубайціс.

На думку прафесара, аддаваць першынство сувязям ВКЛ або Рэчы Паспалітай з сучаснай Літвой было б тым самым, калі б амэрыканцы сваю дзяржаўнасьць зьвязвалі з індзейцамі, гішпанскімі канкістадорамі, пілігрымамі Новай Англіі або брытанскімі ўладарамі.

# Статут ВКЛ вернецца ў Беларусь

Музей гісторыі Магілёва абвясьціў дабрачынную акцыю па зборы сродкаў для выкупу Статута Вялікага княства Літоўскага 1588 года. Гэта была ідэя студэнта-гісторыка Андрэя Радкова, якую падтрымаў малады дырэктар Магілёўскага музея Аляксей Бацюкоў.

Статут быў выстаўлены на продаж на электронным аўкцыёне ўладальнікам антыкварнай крамы ў Маскве. Асобнік быў ацэнены на $ 45 тыс.

Ва ўсім сьвеце налічваецца каля 60 асобнікаў усіх трох выданьняў Статута, зь іх 29 адносяцца да выданьня 1594–1595 гадоў. Знаходжаньне гэтых асобнікаў: Вялікабрытанія (1), Літва (6), Польшча (6), Расія (11), Украіна (5), а ў Беларусі няма ніводнага. Як прыватнымі асобамі, так і дзяржаўнымі інстытутамі краіны ўжо рабіліся спробы выкупіць асобнікі Статута, аднак беспасьпяхова.

Статут ВКЛ — найвышэйшае дасягненьне старабеларускай прававой думкі, аснова ўсёй юрыдычнай сыстэмы ВКЛ. Па сутнасьці, гэта была сярэднявечная Канстытуцыя, якая дзейнічала на ўсіх землях сучаснай Беларусі і была адной з самых прагрэсіўных у Эўропе. Статут паўплываў на



станаўленьне нацыянальнай прававой думкі, а таксама на юрыдычныя традыцыі суседніх краін — Расіі, Польшчы, Эстоніі, Латвіі і інш. Магчыма, менавіта дзякуючы яму беларусы адрозьніваюцца вялікай павагай да права.

Статут 1588 года распрацаваны падканцлерам ВКЛ і старастам магілёўскім Львом Сапегам і быў выдадзены за яго асабістыя сродкі ў друкарні, заснаванай у Вільні Пятром Мсьціслаўцам на грошы магілёўскіх купцоў Мамонічаў. У цяперашні час вядома пра тры выданьні Статута — 1588, 1592–1593 і 1594—1595 гг.

Прыватныя ахвярадаўцы напачатку сабралі 76 мільёнаў беларускіх рублёў. Яшчэ 4500 даляраў унёс прыватны прадпрымальнік з Магілёва, які пажадаў застацца невядомым. Нарэшце, 100 тысяч расійскіх рублёў выдаў беларус з Расеі Павал Бераговіч — адзін з самых шчодрых мецэнатаў беларускай культуры.

На зварот Нацыянальнага банка Беларусі з просьбай паспрыяць адгукнулася фінансавая кампанія "Альпары". Яна ахвяравала 30 тысяч даляраў, менавіта столькі грошай бракавала да поўнай сумы.

Нарэшце ёсьць пэўнасьць: арыгінал Статута Вялікага княства Літоўскага вернецца ў Беларусь.

*31.05.2012*

# Чарговая Сустрэча беларусаў Паўночнай Амэрыкі

1-3 верасьня гэтага года ў Таронта адбудзецца 30-я Сустрэча беларусаў Паўночнай Амэрыкі.

Арганізатарамі Сустрэчаў традыцыйна выступаюць буйнейшыя беларускія арганізацыі ў Канадзе і Амэрыцы – Згуртаваньне беларусаў Канады І Беларуска-Амэрыканскае Задзіночаньне. Мінулая Сустрэча праходзіла ў Саўт Рывэры. Гэтым разам гасьцей будуць прымаць беларусы Канады.

Прапанаваная імі асноўная тэма для абмеркаваньня на Сустрэчы - "Праблемы сучаснай беларускай эміграцыі". Далей у парадку дня канцэрт з удзелам мастацкіх калектываў, асобных выканаўцаў і іншыя забаўляльныя, пазнавальныя і адпачынкавыя праграмы, продаж кніг і сувеніраў.

Галоўная ўправа БАЗА арганізуе калектыўную паездку на Сустрэчу. Запрашаем усіх жадаючых, незалежна ад арганізацыйнай прыналежнасьці. Кошт паездкі будзе паведамлены пазьней, калі будзе атрымана канкрэтная інфармацыя ад канадыйскіх беларусаў.

Зьвяртаем увагу на тое, што вольна паехаць у Канаду змогуць толькі тыя, хто мае амэрыканскае грамадзянства ці Green card. Аднак і яны цяпер патрабуюць мець пры сабе пашпарт. Астатнія могуць ехаць у Канаду па сваіх дакумэнтах з візамі ці бяз іх залежна ад іхнага грамадзянства.

У сувязі з тым, што ў Амэрыцы зараз знаходзіцца шмат беларускай моладзі, якая ня мае амэрыканскіх дакумэнтаў, гэтым разам мы спрабуем арганізаваць іх удзел у Сустрэчы такім своеасаблівым ускосным шляхам. Калі зьбярэцца дастатковая колькасьць жадаючых, то зь іх будзе арганізаваная група, якая правядзе сваю паралельную Сустрэчу каля сусьветна слаўнага Ніягарскага вадаспаду на амэрыканскім беразе, як частку той асноўнай Сустрэчы. На зваротным шляху з Канады ўдзельнікі Сустрэчы ў Таронта заедуць за сваімі маладымі сябрамі на Ніягару, каб разам вяртацца ў Нью-Ёрк.

Замовіць папярэдне свой удзел у Сустрэчы можна праз -
Віталь Алісіёнак, vitalonak@yahoo.com ці па тэл. 1 609 424 3126
Вячка Станкевіч, stankievich@hotmail.com, 1 732 222 1951
Яўген Іванюк, jaugeni@gmail.com, 1 646 474 8452.

# Сяргей Лазьніца – першы беларус на чырвонай дарожцы ў Канах



Сяргей Лазьніца можа сьвяткаваць перамогу. Удзел у конкурсе нароўні са знакамітымі рэжысэрамі ўжо ёсьць посьпех.

Напрыканцы траўня ў Францыі праходзіў знакаміты Канскі фэстываль - найбуйнейшы ў сьвеце кінематаграфічны форум. Сёлета ён прыняў больш за 35.000 прафэсіяналаў кінаіндустрыі з розных краінаў сьвету.

25 траўня ў рамках фэстывалю адбылася сусьветная кінапрэм'ера драмы «У тумане» паводле аповесьці Васіля Быкава. Фільм прэтэндаваў на галоўную ўзнагароду фэстывалю ў Канах – «Залатую пальмавую галінку», але, на жаль, атрымаў толькі адмысловы прыз Міжнароднай асацыяцыі кінакрытыкаў FIPRESCI.

Рэжысэр фільма «У тумане» – Сяргей Лазьніца - нарадзіўся ў Баранавічах.

Быкаўскія Сушчэня, Бураў і Войцік. А ў жыцьці - Уладзімір Сьвірскі, Улад Абашын і Сяргей Калясоў







Урачысты паліцэйскі картэж суправаджаў Сяргея Лазьніцу з камандай стваральнікаў фільму.

Каля тысячы чалавек, гасьцей Канскага фэстывалю, прыйшлі павітаць Сяргея Лазьніцу пад час яго ўрачыстага праходу па чырвонай дарожцы. Сотні фота- і тэлекарэспандэнтаў за некалькі гадзінаў занялі зручныя месцы.

Урачысты картэж стваральнікаў фільма ў суправаджэньні канскай паліцыі праехаў сымбалічныя паўкіляметры ад гатэлю Majestic да Палацу Фэстываляў. Паказ фільма пачаўся а 16 гадзіне па францускім часе ў залі братоў Люм'ераў, разьлічанай на 2200 чалавек.

# «Кароль Лір» па-беларуску



Беларускі вольны тэатр 18 траўня завяршыў сваё двухдзённае выступленьне на шэксьпіраўскім фэстывалі "Globe to Globe" у Лёндане. Тэатр паказваў там сваю вэрсію «Караля Ліра». Спэктакль ішоў на беларускай мове. Беларускія артысты выступілі з ашаламляльным посьпехам. Сем разоў гледачы выклікалі іх «на паклон», а дырэктар таго самага шэксьпіраўскага «Глёбуса» Дамінік Драмгул назваў беларускую вэрсію «самым дакладным прачытаньнем клясычнай п'есы, якую ён бачыў у жыцьці».

# Прыгажуні гадуюцца ў беларускіх вёсках

Увечары 4 траўня ў менскім палацы спорту прайшоў фінал 8-га нацыянальнага конкурсу «Міс Беларусь-2012».

Уладальніцаю тытула першай прыгажуні Беларусі стала Юля Скалковіч зь вёскі Клейнікі Берасьцейскага раёну. Месца першай віцэ-міс заняла Вікторыя Шавель зь вёскі Чонкі Гомельскага раёну, другой віцэ-міс стала Анастасія Пагранічная з Жодзіна.

Цікава, што раней карону "Міс Беларусь-2002" атрымала Вольга Няўдах, дзяўчына з той самай вёскі - Клейнікі! Дзьве "міс" на паўтары тысячы жыхароў - што за вёска такая?




# Новая мадэль Victoria's Secret родам зь Беларусі



Беларуска Марына Лінчук стала новаю мадэльлю Victoria's Secret. Яна прадстаўляла новую калекцыю купальнікаў на карыбскім востраве Санта Бартс. 24-гадовая Марына родам зь Менску, яна ёсьць ужо даволі вопытнай мадэлькаю. Мае за сабою рэкламы для Versace, Donnu Karan, Dior, Gap, Escadu, Dolce & Gabbana і інш. Выступала на паказах мадэляў Givenchy, Gucci, Michael Kors, Prada, Christian Lacroix. Парыскі Vogue зьмясьціў яе імя ў сваім сьпісе 30 лепшых топмадэляў гэтага стагодзьдзя.

# Каляндар памятных датаў на чэрвень 2012 году

**1 чэрвеня** – Міжнародны дзень абароны дзяцей

**2 чэрвеня** - 95 гадоў таму, у 1917 годзе, нарадзіўся Міхаіл Мацукевіч – уладыка Мікалай, архіепіскап БАПЦ

**4 чэрвеня** – 140 гадоў таму, у 1872 годзе памёр Станіслаў Манюшка, кампазытар, дырыжор , клясык беларускай і польскай оперы

**4 чэрвеня** – 60 гадоў таму, у 1952 годзе, памёр у Чыкага Язэп Варонка, палітычны дзеяч, першы прэмьер-міністр БНР

**5 чэрвеня** – Міжнародны дзень аховы навакольнага асяродзьдзя

**6 чэрвеня** – 30 гадоў таму, у 1982 годзе , памёр Язэп Малецкі, грамадзкі дзеяч, дзеяч эміграцыі ў Нямеччыне і Аўстраліі, аўтар кнігі “Пад знакам “Пагоні”

**10 чэрвеня** – 200 гадоў таму, у 1812 годзе, у Полацку была адчыненая езуіцкая акадэмія – першая вышэйшая навучальная ўстанова на тэрыторыі Беларусі

**10 чэрвеня** – 30 гадоў таму, у 1982 годзе, памёр Ян Садоўскі, навуковец, грамадзкі дзеяч эміграцыі ў Вялікабрытаніі і Канадзе

**14 чэрвеня** – 145 гадоў таму, у 1867 годзе, нарадзіўся Мітрафан Доўнар-Запольскі, гісторык, этнограф, адзін з заснавальнікаў нацыянальнай гістарыяграфіі

**16 чэрвеня** – 115 гадоў таму, у 1897 годзе, нарадзіўся Аляксандр Шлюбскі, літаратуразнавец, фальклярыст, этнограф

**19 чэрвеня** – 10 гадоў таму, у 2002 годзе, памёр Мікола Ганько – дзеяч эміграцыі ў Канадзе

**23 чэрвеня** – 65 гадоў таму, у 1947 годзе, памёр Уладзімір Пічэта,гісторык, першы рэктар БДУ

**25 чэрвеня** – 360 гадоў таму, у 1652 годзе, мястэчка Жыровічы атрымала магдэбургскае права

**26 чэрвеня** – 115 гадоў таму, у 1897 годзе, нарадзіўся Лявон Савёнак, пісьменьнік, журналіст, дзеяч эміграцыі ў Нямеччыне і ЗША

**28 чэрвеня** – 70 гадоў таму, у 1942 годзе, у Маскве ў гатэлі загінуў Янка Купала, народны паэт Беларусі

30 чэрвеня – 80 гадоў таму, у 1932 годзе, у Рызе было створана Беларускае навукова-краязнаўчае таварыства пад кіраўніцтвам Кастуся Езавітава

## Калі вы захочаце напісаць лісты падтрымкі палітвязьням: падаем іх адрасы

Мікалай Аўтуховіч: 230023, г. Горадня, вул. Кірава, 1, турма № 1

Алесь Бяляцкі: 213800, Магілёўская вобл., г. Бабруйск, вул. Сікорскага, 1, папраўчая калёнія №2

Зьміцер Дашкевіч: 211791, Віцебская вобласьць, г. Глыбокае, вул. Савецкая, 205. Папраўчая калёнія № 13

Эдуард Лобаў: 225295 Брэсцкая вобл., г. Івацэвічы, “Воўчыя норы”, а/с 20, папраўчая калёнія № 22

Аляксандар Малчанаў: Менская вобласьць. г. Жодзіна, вул. Чапаева 10б. СІЗА-8

Павал Севярынец: 225143, Брэсцкая вобл., Пружанскі р-н, в. Куплін, ПУАТ-7

Мікола Статкевіч: 212011, г. Магілёў, вул. Крупскай, 99а, турма №4

Яўген Васьковіч: 212011, г. Магілёў, вул. Крупскай, 99а, турма № 4

Арцём Пракапенка: 213105 г. Магілёў, Слаўгарадская шаша, п/а Вейна, папраўчая калёнія №15

Павал Сырамолатаў: 213030, г. Магілёў, Слаўгарадзкая шаша, 3 км, ПК №19

Мікалай Дзядок: 213004, Магілёўская вобл., г. Шклоў, ПК-17

Аляксандр Францкевіч: 225295 Брэсцкая вобл., г. Івацэвічы, "Воўчыя норы", а / я 20, папраўчая калёнія № 22

Ігар Аліневіч: 211440 Віцебская вобл., г. Наваполацк, вул. Тэхнічная, 8, папраўчая калёнія № 10

Адрас Сяргея Каваленкі зьмяніўся. Яму цяпер трэба пісаць: 212030, г. Магілёў, Слаўгарадзкая шаша, 3-ці км, Магілёўская ПК 19



## Радасьць жыцьця

### *Надзея Дробіна рэклямуе адпачынак у беларускім цэнтры ў Канадзе для ўсіх беларусаў*



Дзіўна далікатныя пейзажы аксамітава-зялёных палёў, напоўненых горкім водарам густых траў; дзікія, малапраходныя, напоўненыя птушыным рознагалосьсем лясы, дзе пасяліліся здаўна магутныя дрэвы-асілкі, дзе водзяцца няпужаныя чалавекам зьвяры; казачна чарадзейнае, неверагодна прыгожае возера, зночы пакрытае лёгкімі блакітнымі туманамі, а на сьвітанку афарбаванае сонцам у пунцовы колер; глыбокае начное неба зь нізкім россыпам нясьмела мігаючых зорак... Такія родныя, мілыя зь дзяцінства краявіды! Але вы не ў Беларусі. Вы – на беразе антарыйскага возера Manitouwabing, дзе ў далёкія 60-я гады беларусы Канады купілі зямлю з будынкам для адпачынку.

Днём тут прыемна плаваць, хадзіць у грыбы, рыбачыць, а ўвечары - пасядзець ля вогнішча, паслухаць сьпевы цыкад, а потым прайсьціся па полі.

Ты ў казцы – на небе зоркі, вакол цябе сьветлякі.

Вось яна – радасьць жыцьця...

# Тэрмінова патрабуецца дапамога



*Гэтую просьбу даслаў нам амэрыканскі беларус Анатоль Тальянскі, бо справа ідзе пра ягонага ўнука Яраслава.*

Дапамажыце, калі можаце, Яраславу.

Дарагія людзі, наш 2-гадовы сын Яраслаў хворы на жахлівую хваробу - неўрабластому (рак), якая распаўсюджваецца на нырку ды на косьці. На жаль, мэдыцына ў Беларусі ня можа перамагчы гэтую хваробу. Яраславу патрэбна трансплантацыя і атрыманьне мэдыцыны або ў Нямеччыне, або ў ЗША. На гэта патрэбны вялікія сродкі, таму мы зьвяртаемся да добрых людзей, па магчымасьці дапамажыце. Ваша дапамога дасьць магчымасьць Яраславу жыць.

Dear people. A year ago our son 2 years old Yaroslav fell ill with a terrible disease - neuroblastoma of the left adrenal gland with a lesion of para-aortic lymph nodes, multiple bone lesions, N-myc positive, stage IV. From the earliest days of diagnosis Yaroslav has been under thorough examinations in Belerusan Research Center for Pediatric Oncology and Hematology. He has gone through six courses of chemotherapy, had operations on removing the tumor and bone marrow stem cells transplantation. After a brief remission the disease became worse.

After the initial surgery followed a second one, as well as a repeated chemotherapy. Unfortunately the healthcare system alone in the Republic of Belarus can not fight this disease, because the disease has struck the bone system. That is why we are looking for help through charitable organisations and people with kind hearts to get the treatment in USA. Please, help us not to lose the only chance to save our baby.

Your help will become an important part in saving our boy. We ask all kind people to please respond to our plea. Thank You and God bless You! Donation gratefully accepted.

http:vrww.help-yaroslav.by
e-Mail: help.jaroslaw@gmail.com

International bank transfer:
US dollars(USD)
Correspondent bank:
STANDARD CHARTERED BANK, NEW YORK
SWIFT SCBLUS33 Account 3582021714001

Beneficiary bank: BELARUSBANK, 1, Dolgobrodskaya str., MINSK 220037 BELARUS
SWIFT AKBBBY21511

Beneficiary:
VASILI YAVORSKI Account 000017

Purpose of payment:
Donation for the treatment of Yavorski Yaroslav to the charity account of Yavorski Vasili Vladimirovich in the department of 511/214 of "Betarusbank"

PayPal ID: BILL_TESL@yahoo.com

Parents Natalia and Vasiliy Yavorski.

Вашыя ахвяраваньні вы можаце дасылаць і на імя

Anatol Talianski,
1537 68th Street. Apt 2D, Brooklyn, NY 11219




# Сьв. пам. Уладзімер Плахоцкі (14 траўня 1929 - 20 траўня 2012 )

На 84-м годзе жыцьця адыйшоў у вечнасьць Уладзімер Плахоцкі. Ён нарадзіуся ў Любані на Гарадзеншчыне ў Беларусі.

Добры сябра, шчыры беларус, Уладзімір Плахоцкі на працягу 36 гадоў і да астатніх дзён свайго жыцьця працаваў у Радзе дырэктараў Беларускага сацыяльнага клюбу ў Сыднэі, з іх 30 гадоў быў нязьменным сакратаром клюбу. Усе свае жыцьцё ў Аўстраліі ён актыўна падтрымліваў дзейнасьць беларускай сацыяльнай грамады,і дзеля гэтага не шкадаваў ні часу, ні сілаў.

Рада дырэктараў, а таксама сябры Беларускага сацыяльнага клюбу Сыднэя выказваюць глыбокае спачуваньне ўсёй радні памерлага Уладзіміра Плахоцкага. У яго засталіся брат Анатоль і сястра Валянціна з сем'ямі.

Вечная памяць!

## На выданьне "Беларуса" ахвяравалі:

| | |
|---|---|
| Ліза Бакуновіч-Грыц | $ 50 |
| Янка Барысевіч | $ 80 |
| Сільвестр Будкевіч | $ 60 |
| Міхась Баяроўскі | $ 60 |
| Людміла Варанцова | $ 60 |
| Яраслаў і Кацярына Вініцкія | $100 |
| Сям'я Кіпеляў | $ 250 |
| Ніна і Віктар Кіт | $ 100 |
| Ліза Літаровіч (у памяць сястры Ніны Сільвановіч) | $ 100 |
| Аляксандра Лістоўская | $ 50 |
| Нікалас Махнач | $ 50 |
| Сандра і Уладзімір Пірс-Адашкевіч | $ 50 |
| Нікалас і Валерыя Сняж | $ 100 |
| Вячка Станкевіч | $ 50 |
| Вікторыя Судакова | $ 50 |
| Джон Шыбут | $ 50 |
| Барыс Гайда | $100 |
| Марыя Данілюк | $ 50 |
| Інна Фанская | $ 50 |
| Ларыса Пузач | $ 50 |

**Шчыры дзякуй усім ахвярадаўцам!**


**БЕЛАРУС**
*Газэта Беларусаў у Вольным Сьвеце*
Выдае:
*Беларуска-Амэрыканскае Задзіночаньне*

**BIELARUS**
*Belarusan Newspaper in the Free World*
Published by
*Belarusan American Ass'n, Inc.*

**Склад Рэдакцыі:**
Ганна Сурмач – адказны рэдактар (surmacova@gmail.com)
Алена Высоцкая - адказная за кампутарную вёрстку
Андрусь Падлескі – сябра рэдакцыі
Таня Красоўская – скарбнік, арганізатар падпіскі (premiere718@yahoo.com)
Галіна Падлеская – рэдактарка дзіцячай старонкі galinapodles@hotmail.com
Валеры Дворнік - адказны за друк
Натальля Старавойтава - адказная за рассылку газэты

Артыкулы падпісаныя прозьвішчамі ці ініцыяламі, могуць зьмяшчаць пагляды, зь якімі Рэдакцыя не пагаджаецца.

**Адрасы Рэдакцыі:**
Паштовы адрас:
*Hazeta Bielarus*
*166-34 Gothic Drive*
*Jamaica, NY 11432*
*USA*

**Грашовыя чэкі выпісываць на імя :** ***BIELARUS newspaper*** дасылаць скарбніку на паштовы адрас рэдакцыі.

**Электронны адрас (email):**
**bielarus@bazahq.org**

*Адказнасьць за зьмест рэклямы нясе рэклямадаўца.*